

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№1 (студзень), 2016

# Мяжа




**Жыхара Івацэвічаў зьбілі міліцыянты: «Да галавы кніжку прыстаўлялі, і кулаком па кніжцы — на...»**

(старонка 15)

## ЗЬМЕСТ

# Абласны суд не апраўдаў «актывіста ў робе»




Грамадзкі актывіст Рыгор Грык з Баранавічаў атрымаў паведамленьне з абласнога суду Берасьця, што адміністрацыйнае пакараньне за лаянку і пікет яму вынесена законна.

Як апавёў Свабодзе Рыгор Грык, у судовай пастанове напісана, што «сьведкаў, зацікаўленых у выніку справы, якія б агаворвалі Грыка, ня маецца». Таксама адзначаецца, што аргумэнты Грыка «пра неўчыненьне правапарушэньня абвяргаюцца прыведзенымі доказамі». Таму пастанову Баранавіцкага суду пра пакараньне Рыгора Грыка штрафам судзьдзя абласнога суду Натальля Сурма пакінула бязь зьменаў.

Рыгор Грык кажа, што і не спадзяваўся на станоўчае рашэньне абласнога суду, але мяркуе абскарджваць і надалей:

«Буду пісаць цяпер старшыні абласнога суду. Лічу пакараньне незаконным. Ні баранавіцкі, ні берасьцейскі суд не захацелі разабрацца ў сутнасьці справы. Не лічу сябе вінаватым. Паколькі наш суд поўнасьцю залежыць ад улады, таму і прынята такое рашэньне. Відаць, у Беларусі цяжкі стан эканомікі, і ўлады вырашылі такім чынам за наш кошт папаўняць бюджэт».

У канцы верасьня баранавіцкі актывіст Рыгор Грык прыйшоў на працу ў турэмнай робе. Такім чынам ён пратэставаў супраць таго,

што яму не выдаюць працоўную вопратку. У той жа дзень Рыгора Грыка звольнілі з крамы Mart Inn, а дырэктарка крамы напісала заяву ў міліцыю, што ён брыдкасловіў. За гэта ды яшчэ і за пікет, які адбыўся ў часе перадвыбарчай кампаніі, Грыку прысудзілі 5 мільёнаў 400 тысяч штрафу.

http://www.svaboda.org/content/ryhor-hryk/27459131.html

## Жыхары Берасцейшчыны раяць уладам, якія законы трэба адмяніць

У апошні дзень 2015 года жыхары і госці Берасцейшчыны падказваюць уладам, якія законы, указы і пастановы павінны быць ліквідаваны. Таму што яны значна пагоршылі жыццё ці наогул шкодныя для дзяржавы і людзей.

Грамадзяне спадзяюцца, што ўлады іх пачуюць і пойдуць насустрач, каб такім чынам у 2016 годзе справы ў краіне палепшыліся, кажуць людзі:

– Людзі не могуць працаўладкавацца, пры гэтым дзяржава ўводзіць падатак на дармаедства, таму я лічу, што трэба таксама адмяніць кантрактную сістэму найму. Пры заканчэнні кантракта людзі застаюцца без працы.

– Закон № 29 увайшоў у гісторыю Беларусі як “закон пра нявольніцтва”.

– Каб у 2016 годзе быў адменены гэты ганебны закон пра двухмоўе. Яшчэ хацеў бы, каб быў адменены закон пра смяротнае пакаранне.

– Каб выбары праходзілі адкрыта, дэмакратычна.

– Трэба адмяняць гэту ўладу ў першую чаргу.

Людзі ўпэўнены ў адным, што толькі свабодны чалавек можна быць стваральнікам усяго лепшага.

Увесь матэрыял слухайце ў далучаным гукавым файле.

http://www.racyja.com/hramadstva/zhykhary-berastsejshchyny-rayats-uladam-yak/

## У Новы Год са старымі праблемамі

Дробныя прадпрымальнікі адмаўляюцца ад бізнэсу з-за прэзідэнцкага указу нумар 222

Са студзеня ўступіў у сілу ўказ прэзідэнта нумар 222, паводле




якога прадпрымальнікі абавязаны мець сэртыфікаты якасці для тавараў лёгкай прамысловасці. У выніку могуць спыніць працу большай за 120 тысячаў іпэшнікаў па ўсёй краіне.

Тым часам першы намеснік міністра гандлю Артур Карповіч у каментары інфармацыйнаму агентсву БЕЛТА паведаміў, што многія прадпрымальнікі яшчэ знаходзяцца "на навагодніх і калядных вакацыях". Таму пакуль немагчыма сказаць, які адсотак ІП сапраўды не выйшаў на працу, адзначыў чыноўнік. Па словах Карповіча патрэбнасці насельніцтва ў таварах лёгкай прамысловасці задавальняюцца ў поўным аб'ёме.

Складана паверыць у словы чыноўніка, традыцыйна ў час навагодні святаў ІПэшнікі маюць выручку ў тры разы болей чым ў звычайныя дні.

Нагадаем, паводле указу прэзідэнта з пачатку 2016 года прадпрымальнікі павінны рэалізоўваць прадукцыю лёгпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з суправаджальнымі дакументамі. У сваю чаргу іпэшнікі скардзяцца, што расійскія

пастаўшчыкі, у якіх яны закупляюцца, звычайна адмаўляюцца выдаваць дакументы аб паходжанні прадукцыі альбо прадастаўляюць фіктыўныя даведкі. У выніку на ІП накладаюць штрафы, у іх канфіскуюць тавар.

Пратэсты прадпрымальнікаў пракаціліся па ўсёй краіне, яны не выйшлі на працу не толькі ў сталіцы, так 5 студзеня прадпрымальнікі не выйшлі на працу ў Магілёве, Брэсце, а прадпрымальнікі Віцебска пайшлі са скаргамі да кіраўніцтва горада. Пустыя рынкі не толькі ў абласных гарадах, але і раённых цэнтрах. Прадпрымальнікі патрабуюць ад уладаў не чарговай адтэрміноўкі указу № 222, а яго адмены.

## Брэст: пракуратура адмовілася распачынаць крымінальную справу паводле парушэнняў выбарчага заканадаўства




Як вынікае з адказу, які атрымаў мясцовы актывіст Руху “За Свабоду” Дзяніс Турчаняк, гарадская пракуратура нават не праводзіла праверку паводле фактаў, што былі выкладзеныя ў ягонай заяве.

Дзяніс Турчаняк нагадаў, што ў сваёй заяве на імя пракурора Брэста, прасіў правесці праверку і даць прававую ацэнку дзеянням старшыні Маскоўскай раённай горада Брэста камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Галіны Янголенкі, якая самастойна разгледзела ягоны зварот. Між тым, раней пракуратура даручыла разгледзіць зварот Турчаняка менавіта выбарчай камісіі, як калегіяльнаму органу, а не асабіста старшыні выбаркаму. Такім чынам, лічыць грамадскі актывіст, Галіна Янголенка схавала ад сябраў камісіі выкладзеныя ў заяве факты, што тычацца парушэнняў падчас прэзідэнцкіх выбараў. Аднак у гарадской пракуратуры праігнаравалі парушаны парадак разгляду звароту і адмовіліся ладзіць праверку ў дачыненні да старшыні раённай выбарчай камісіі. Больш таго, і без правядзення

праверкі надзорны орган зрабіў выснову, што няма дастатковых падставаў, каб прыцягваць Янголенку да адказнасці.

“Гарадская пракуратура спрабуе на заўважаць факты парушэнняў падчас апошніх выбараў, таму я вымушаны абскардзіць гэтыя дзеянні і звярнуўся да пракурора Брэсцкай вобласці”, - патлумачыў Дзяніс Турчаняк

http://spring96.org/be/news/81837

## Кіно па-беларуску

11 студзеня ў Берасце адбыўся саўмесны Калядны прасмотр цудоўнага фільма «Гісторыя Раства» на роднай мове! Презентаваў фільм заснавальнік суполкі «Кінаконг» Андрэй Кім. Гэтая суполка займаецца прафессійным перакладам фільмаў, трэйлераў і іншых кінаматэрыялаў на беларускую мову.

Фільм «Гісторыя Раства» распавядае пра найвялікшую падзею ў гісторыі чалавецтва — Раство Хрыстова.




Распавядае Андрэй Кім: “ Прычына па якой мы вырашылі агучыць менавіта гэты фільм у яго гістарычнасці. Кожны раз, калі мы святкуем Каляды, варта памятаць, чаму мы гэта робім.”

Андрэй папрасіў пры праглядзе стужцы звярнуць увагу на тое, што многія людзі ў тыя часы чакалі прышэсьця Месіі з радасьцю; а некаторыя не верылі ў гэта, называючы прароцтва пра Мэсію байкамі; але сам Ірад верыў і баяўся, таму загадаў здзяйсьняць такія жорсткія рэчы, як масавае забойства немаўлятак.

Няма іншага Нараджэньня, да якога людзі настолькі неабыякавыя. Гэта таму, што яно зьмяніла свет. Некаторыя ненавідзяць гэтую падзею, некаторыя спрабуюць ігнараваць, а іншыя – вераць.

Жыццё Ісуса Хрыста перамяніла гісторыю чалавецтва. Усё, што было да Яго, называецца “да Нараджэньня Хрыста”, а ўсё, што адбывалася пасьля – “пасьля Нараджэньня Хрыста”.

Саўмесны прасмотр гэтай карціны натхніў берасцейцаў надалей глядзець цікавыя фільмы па-беларуску разам.

## Бацьку чатырох дзяцей зрабілі беспрацоўным

З інжынерам па ахове працы мікашэвіцкага РУВП «Граніт» Уладзімірам Табула не працягнулі працоўны кантракт.

Уладзімір Табула прапрацаваў на мікашэвіцкім прадпрыемстве 11,5 гадоў, прайшоў кар'ерную лесвіцу ад электраслесара да інжынера па ахове працы. Скончыў Пінскі дзяржаўны індустрыяльна-педагагічны каледж, дзе атрымаў спецыяльнасць: тэхнік-электрык і майстар вытворчага навучання, што дазволіла яму павысіць кваліфікацыю да 5-га разраду. У 2013 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны аграрна-тэхнічны ўніверсітэт на завочную форму навучання. У тым сама 2013 годзе Табула атрымаў прызначэнне на пасаду інжынера па ахове працы. На загад кіраўніка прадпрыемства выконваў абавязкі намесніка начальніка аддзела, замяшчаў і вышэйстаячых кіраўнікоў.

Уладзімір Табула добрасумленна і прынцыпова ставіўся да сваіх абавязкаў, прадстаўляў факты парушэнняў па ахове працы, адзначаў нядбайнае і фармальнае стаўленне адміністрацыі прадпрыемства да аховы працы на "Граніце".

17 сьнежня 2015 года Уладзіміра Табулу звольнілі, нягледзячы на яго прафесіяналізм. Бацьку чатырох дзяцей зрабілі беспрацоўным, а ў маленькім горадзе Мікашэвічы знайсці працу праблематычна.

Уладзімір Табула звярнуўся да юрыста Берасцейскай Вясны Уладзіміра Малея, была падрыхтавана іскавая заява ў Лунінецкі раённы суд аб аднаўленні Табулы ў працы і выплаце маральнай шкоды.

Праваабаронца Уладзімір Малей, лічыць шкодным і непрафесійным падыход з боку кіраўніцтва РУВП «Граніт» выштурхоўваць з прадпрыемства маладых і высокапрафесійных спецыялістаў толькі за іх прынцыповасць.

## Уладзімір Табула накіраваў заяву ў суд

Звольнены з працы інжынер па тэхніцы бяспекі прадпрыемства “Граніт” у Мікашэвічах Уладзімір Табула толькі зараз даведаўся, што афіцыйна ён лічыўся на “Граніце” намеснікам начальніка аддзела тэхнікі бяспекі.



І цяпер ён фактычна не звольнены, а знаходзіцца ў вымушаных прагулах, кажа Табула:

– Наймальнік пры пераводзе мусіў заключыць са мной новы працоўны кантракт, але ён гэтага не зрабіў. Мяне накіравалі на пасаду інжынера па ахове працы, а загаду аб вызваленні з пасады намесніка начальніка аддзела ніхто не выдаў.

Зараз Уладзімір Табула накіраваў заяву ў суд з просьбай узнавіць яго на працы намеснікам начальніка аддзела ахові працы. Берасцейскі кіраўнік дэпартамента аховы працы ў размове з Табулай прызнаў парушэнні з боку “Граніта”.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-tabula-nakiravau-zayavu-u-su/

## "Гэтыя прадлёнкі давялі мяне да самагубства"

- піша ў сваім лісьце на волю Шабнам Худайдодава. 12 студзеня 2016 года ёй у чарговы раз працягнулі тэрмін утрымання пад вартай у Брэсцкім СІЗА яшчэ на тры месяцы.

Нагадаем, што Шабнам Хадайдодова, актывістка апазіцыйнай таджыкскай арганізацыі, у чэрвені 2015 пры перасячэнні беларуска-польскай мяжы была затрыманая памежнікамі, бо знаходзілася ў міждзяржаўным вышуку за экстрэмісцкую дзейнасць на тэрыторыі сваёй краіны.

У пастанове Намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь дзяржаўнага саветніка юстыцыі 3 класа Струк А.К.сказано:

што тэрмін утрымання пад вартай Худайдодавай Шабнам Хуйрулаўны ... падоўжыць да 9 (дзевяці) месяцаў, то бок, да 13 Сакавіка. Падставай для гэтага паслужыла тое, што да цяперашняга часу рашэнне па хадайніцтве Худойдодовой Ш.Х.о абароне не прынята.

СМІ не раз пісалі пра активистве з Таджыкістану, якія знаходзяцца пад вартай у следчым ізалятары г. Брэста.

Нагадваем, што Худойдодова Шабнам далучылася да «Групе 24», якую таджыкскія ўлады прызналі экстрэмісцкай, знаходзячыся на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, дзе пражывала ў апошнія гады. Усё, што яна рабіла, - гэта крытыкавала таджыкскія ўлады за праводзімую імі палітыку ...

Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Таджыкістан была прадастаўлена просьба аб выдачы Худайдодовой Ш.Х. Аднак, прыняць рашэнне аб наяўнасць падстаў да выдачы Худайдодовой Шабнам ў Рэспубліку Таджыкістан не прадастаўляецца магчымым, паколькі 2015/07/07 г. ад яе ва ўпраўленне па грамадзянству і міграцыі УЎС Брэсцкага аблвыканкама паступіла хадайніцтва аб прадастаўленні статусу бежанца або дадатковай абароны Рэспублікі Беларусь.

12. студзеня 2016 года Дэпартамент па грамадзянстве і міграцыі таксама прыняў рашэнне падоўжыць Худайдодавай Ш.Х. утрыманне пад вартай на тры месяцы.

У сваіх лістах Шабнам падкрэслівае, што яна не злачынца і не тэрарыстка, а падаўжэнне тэрмінаў утрымання пад вартай давяло яе да самагубства: "Беларусь такая ж бедная краіна як і Таджыкістан. Кормяць толькі гарохам, пярлоўкай, капустай і смярдзючай рыбай. "

Праваабаронцы з Брэста заклікаюць людзей, неабыякавых да лёсу актывісткі, якая доўгі час знаходзіцца ў зняволенні, напісаць ліст падтрымкі, зрабіць перадачу.

**Паштовы адрас:**

*Шабнам Худойдодова*

*вул. Карла Маркса 86, СІЗА,*

*Брэст, 224000.*

## Лідар гурта Sumarok Ігар Палынскі ў Берасці




18 студзеня берасцейцы змаглі пазнаёміца з лідарам гурта Sumarok Ігарам Палынскім з Полацку. Рок-музычны гурт Ігара Палынскага пачаў існаваць з 2009 году і называўся “Горад N”.

Пачас сустрэчы саліст гурту пазнаёміў прысутных з творамі з дэбютнага альбома. Ігар распавёў, што новая песня Sumarok дала назву і самаму гурту, фактычна зь яе пачаўся новы этап у іх дзейнасьці. Ігар Палынскі зьвярнуў ўвагу на радок з верша «ты адкрыеш недзе дзверы і пачуеш крок - пераклейвае шпалеры ў сваіх думках Sumarok. Для нас гэта песьня пра шчасьце і посьпех. Мы зразумелі, што трэба рабіць больш рашучыя крокі, каб нечага дасягнуць».

Лідар гурта выканаваў сьпевы на вершы Алеся Аркуша, бацькі музыкі Алеся Палынскага песні Дзіяны Арбенінай і гурта «Ночные Снайперы», у аўтарскім перакладзе на беларускую мову. Сьпевы на вершы нобелеўскага лаўрэата Ёсіфа Бродзкага. На іх выкананьне былі атрыманая згода ад уладальнікаў правоў. Фонд памяці Бродзкага, напрыклад, даслаў на запыт музыкаў афіцыйны дазвол на выкарыстаньне вершу «Пепел». Напрыкацы сустрэчы разам заспевалі прыпеў песні “Мяч”, хлопцы гурта зрабілі беларускамоўны кавэр на песьню Сяргея Міхалка гурта Brutto «Мяч».

## “Эх, яблычка, куды ты котісся?..”

У крамах Берасця яблыкі з Францыі каштуюць 36 тысяч рублёў, з Польшы 15-25 тысяч, а беларускіх яблык увогуле няма. Спецыялісты раяць аддаваць перавагу беларускім гатункам яблыкаў, выгадаваным у сябе ў садзе, ці хаця б пакупным.Улетку закупачная цана яблыкаў у сялян складала ўсяго 300 рублёў.

Зусім нядаўна беларускія чыноўнікі супакойвалі нас.

“Беларусь штогод вырошчвае дзясяткі тысяч тон розных гародніны і садавіны...

...Беларускія яблыкі - гэта заўсёды асобная тэма для размовы і параўнання іх з польскімі і іншымі субратамі. Як запэўніваюць спецыялісты, сёння беларускі яблык на сто пунктаў лепшы за канкурэнтаў ...

Мінсельгасхарч заяўляе, што беларускіх агародніны і садавіны для бесперабойнага гандлю ў міжсезонны перыяд дастаткова. У гэтым годзе ўраджай бульбы ў Беларусі перавысіць 6 млн т. У дастатковым аб'ёме будзе нарыхтавана гародніны і садавіны.

... харчовая бяспека краіны забяспечана ў поўным аб'ёме.”

Дык хочацца запытацца ў чыноўнікаў, дзе знайсці беларускія яблыкі?

## Брэст: пададзена заяўка на пікет супраць павышэння коштаў на медыцынскія паслугі



Заяўнікам акцыі з’яўляецца старшыня гарадской арганізацыі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка, якая распавяла, што пікет на працягу двух гадзін мяркуецца правесці 3 лютага ў цэнтры горада, на пешаходнай вуліцы Савецкай.

“Пастанова Міністэрства аховы здароўя, на падставе якой былі павышаны максімальныя тарыфы на паслугі па дыягностыцы, прафілактычным і абавязковым медыцынскім аглядзе грамадзян, супярэчыць Канстытуцыі, а менавіта артыкулу 45, згодна з якім грамадзянам гарантуецца права на ахову здароўя, што прадугледжвае бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя”, - заявіла Дзенісенка. Паводле яе слоў, мэта акцыі –прыцягнуць увагу жыхароў да гэтай праблемы.

Падчас пікета плануецца збіраць подпісы пад зваротам да міністра аховы здароўя Васіля Жарко за адмену гэтай пастановы. У

звароце, у прыватнасці, адзначаецца, што ў той час як пенсіі і заробкі фактычна замарожаны, Міністэрства аховы здароўя прымае вельмі непапулярнае рашэнне аб павышэнні коштаў на медыцынскія паслугі. Гэта вельмі негатыўна адбіваецца на пенсіянерах, студэнтах, сем'ях з невялікімі прыбыткамі.

Людміла Дзенісенка распавяла, што ў Брэсце збор подпісаў пад гэтым зваротам пачаўся ў сярэдзіне студзеня і будзе працягнуты да сярэдзіны лютага. “Жыхары горада, з якімі мы размаўлялі, супраць пастановы міністэрства, якое ператварае дзяржаўныя паліклінікі і бальніцы ў камерцыйныя структуры па аказанні платных паслуг”, - заявіла Дзенісенка.

http://spring96.org/be/news/81972

## Канстытуцыйны суд прызнаў законным збор з дармаедаў

Канстытуцыйны суд прызнаў артыкулы дэкрэта аб дармаедах адпаведнымі Асноўнаму закону.

Дэкрэт цалкам не разглядаўся ў Канстытуцыйным судзе, бо не быў унесены на разгляд упаўнаважанымі суб’ектамі, паведаміў журналістам старшыня КС Пётр Міклашэвіч. Але шэраг артыкулаў, якія патрабавалі змены існуючых законаў, Канстытуцыйны суд вывучыў і прызнаў іх адпаведнымі Канстытуцыі. Збор з тых, хто не працуе, ёсць «безумоўным патрабаваннем заканадаўства, якое грунтуецца на канстытуцыйным абавязку кожнага ўдзельнічаць у фінансаванні дзяржаўных расходаў», сказаў Міклашэвіч.

– Кожны грамадзянін нашай краіны мусіць прымаць удзел у стварэнні агульнага дабрабыту, якое выкарыстоўаецца ўсімі членамі грамадства. Таксама мы глядзелі, каб абавязаковая уплата збору па фінансаванні дзяржаўных выдаткаў не была празмарнай. Вы ведаеце, што сума гэтая сёння складае 4 млн 200 тыс.

Канстытуцыйны суд таксама лічыць адпаведнымі Асноўнаму закону змены ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія прадугледжваюць пакаранне за ўхіленне ад выплаты збору.

http://www.racyja.com/palityka/kanstytutsyjny-sud-pryznau-zakonnym-z/

## У Бярозе суд вызначае, ці была падстава не дазволіць пікет



Бярозаўскія праваабаронцы спрабуюць аспрэчыць у судзе Бярозаўскага раёна адмову ў пікеце 10 снежня. Чыноўнікі спасылаліся на правядзенне спартовага мерапрыемства ў запрошаны на пікет дзень і час. Але стадыён 10 снежня аказаўся пустым.

Кажа адзін з заяўнікаў пікету Сяржук Русецкі:

– Спартовае мерапрыемства не падпадае пад вызначэнне „масавае мерапрыемства". Згодна з законам, спартовае мерапрыемства было б масавым мерапрыемствам, калі б не было спецыяльна вызначанага для гэтага месца. А паколькі гарадскі стадыён як раз для гэтага і прызначаны, то фактычна ніякага другога масавага мерапрыемства там не было, такім чынам нам адмовілі незаконна.

Суддзя Алена Нямкова, якая вядзе справу, вырашыла выклікаць на чарговае судовае паседжанне дадатковых сведак. Суд працягнецца 27 студзеня.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-sud-vyznachae-tsi-byla-padstava/

## Людзей абурыла "паляпшэнне ўмоў абслугоўвання"

Эканамічная нестабільнасьць і няўпэўненасць у заўтрашнім дні ў любы момант могуць спровакаваць бунт грамадства. Сёння я стала сведкай «народнага абурэння».

Справа ў тым, што ў лістападзе 2015 у 23 паштовым аддзяленні

сувязі, што ў Берасці, ўвялі сістэму электроннай чаргі для зручнасці абслугоўвання. Праўда, аўтамат часта быў няспраўны, што не вельмі хвалявала кліентаў. Але вось калі ён пачынаў спраўна працаваць, чарга павялічвалася адразу разы ў тры. Кліенты, а гэта ў асноўным людзі сталага веку, сталі прасіджваць, прастойваць у чарзе больш за гадзіну ў задушным памяшканні, каб атрымаць свае «кроўныя» і аплаціць кватэру. Людзей абурыла “паляпшэнне ўмоў абслугоўвання” з-за якіх павялічваецца колькасць народу. На просьбу ўключыць кандыцыянер кліенты, пачулі, што ён адключаны на зіму. Запатрабавалі кнігу скаргаў, на што працаўнік аддзялення сувязі сказала, што і ўчора было шмат нараканняў на вялікую чаргу.

Народ не зупыняўся, прапаноўваў сапсаваць нумеравальны аўтамат. Падчас абурэньняў людзі выказвалі непрыязнае стаўленне да ўладаў і да «агульнаабранага».

Праз пэўны час да кліентаў выйшла Сама загадчыца 23 паштовым аддзяленнем, каб даведацца мяркаванне большыні і, узяўшы на сябе адказнасць, адключыць аўтамат, прапанавала абслугоўвацца па «жывой» чарзе.

«Стыхійнае сход» прыняў рашэнне адключыць аўтамат заўтра, а сёння ўжо неяк адпакутваць па ўзятых талонах, таму што многія кліенты ўжо адстаялі ў чаканні паслугі па аплаце плацяжоў больш за гадзіну.

## Жыхара Івацэвічаў зьбілі міліцыянты: «Да галавы кніжку прыстаўлялі, і кулаком па кніжцы — на...»

Сяргей Дылюк трапіў у івацэвіцкую лякарню з страсеньнем мозгу, сінякамі і кровападцёкамі. Спадар распавёў журналістам, што яго зьбілі міліцыянты.

57-гадовы жыхар Івацэвічаў **Сяргей Дылюк** кажа, што 23 студзеня да яго прыехалі міліцыянты ды завезьлі ў РАУС, дзе некалькі супрацоўнікаў яго зьбівалі, змушаючы прызнацца ў крадзяжы:

Каля 7 ранку ў дзьверы пагрукалі міліцыянты. Кажуць, паехалі, маўляў, размова ёсьць. Забіраюць з хаты, завозяць у аддзел... То нейкі ровар на мяне „вешалі“, потым нейкую прыстаўку. Я так разумею, тэлевізійную прыстаўку, якая яшчэ можа быць прыстаўка?..

Ну вось, папабілі-папабілі... Страсеньне мозгу, ногі пабілі. Выбівалі на сваю карысьць. То я і кажу, усё, давайце, я буду падпісваць, што браў я, і адчапіцеся ад мяне. У выніку апынуўся ў лякарні... Нагамі, кулакамі білі. Я памятаю раз ды праз раз. Быў упаў на лаўку, участковы выходзіў, ды яшчэ кулаком зьверху стукнуў, і паплыло ўсё ізноў. Да галавы кніжку прыстаўлялі, і кулаком па кніжцы — на... Я галавой у сьценку. Гестапа!»

Пасьля РАУС Сяргей прыйшоў дахаты. Кажа, што было дрэнна, нават выклікаў хуткую. А ўжо ў панядзелак пайшоў у лякарню, дзе яго паклалі ў траўматалёгію.

Спадар Сяргей ня ведае імёнаў тых, хто яго зьбіваў, але кажа, што памятае іх у твар. Мужчына кажа, што некаторыя зь міліцыянтаў, якія яго білі, прыходзілі да яго ў лякарню:

«Яны былі тут у мяне. Як і што, куды, маўляў, заяву буду пісаць. Я кажу, што ня ведаю, але трэба бараніцца».

Сяргей Дылюк кажа, што міліцыянты намякалі яму, каб нікуды ня скардзіўся. Тым ня меней у прысутнасьці журналістаў ён напісаў заявы ў пракуратуру і Сьледчы камітэт, каб распачалі крымінальную справу па факце зьбіцьця і пакаралі вінаватых.

Мужчына кажа, што яму тут цяпер і дапамагчы няма каму. З сваякоў засталася толькі жонка нябожчыка брата:

«Я застаўся адзін, браты памерлі. Жыву па „ціхай вадзе“. Дзе прыйдзецца — падпрацую. Ніколі не прыцягваўся да крымінальнай адказнасьці. 57 гадоў пражыў на сьвеце і ні разу не прыцягваўся», — кажа Сяргей Дылюк.

Атрымаць камэнтар прадстаўнікоў праваахоўных органаў пакуль не ўдалося. Тэлефоны адказных за прадстаўленьне інфармацыі СМІ не адказваюць.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»